

# Беларус

50-ГОДЗЬДЗЕ!

*«Другі Ўсебеларускі Кангрэс... пастанавіў: Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... 25 сакавіка 1918 г.»*

*Менск, 27 чэрвеня 1944 г.*

№ 418 Лістапад 1994
Год выд. 43

BIELARUS / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $2.50

## ВЫБАРЫ 1994 ГОДУ Й БУДУЧЫНЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ДАЧЫНЕНЬНЯЎ

Нават самыя аптымістычныя паказьнікі службаў прагнозу не прадказвалі гэткай перамогі рэспубліканцаў у сёлетніх выбарах. Прадбачалася павялічэньне колькасьці мандатаў рэспубліканцаў як у сэнаце, гэтак і ў кангрэсавай палаце, але здабыць большыню ў абедзьвух палатах — падзея ня частая. Здавалася-б, што ня было і асаблівых прычынаў гэткім паводзінам выбаршчыкаў. У краіне эканамічны стан стабільны, беспрацоўе нізкое, моцны даляр, не нэрвуе сярэдняга амэрыканца і замежная палітыка. Але, як выказаліся дзесяткі палітычных назіральнікаў, прычынай гэткай паразкі дэмакратаў сёлета было тое, што шырокае амэрыканскае грамадзтва, даўшы мандат дэмакратам у 1992 годзе, чакала ад гэтае партыі ды ад прэзыдэнта Клінтана больш дынамічных крокаў ва ўнутраной палітыцы: упарадкаваньня дзяржаўнага бюджэту і хутчэйшага зьмяшнэньня дэфіцыту, правядзеньня рэформаў у дзяржаўным апараце і выбарчай сыстэме, асьцярожнага ўсёабымаючага наладжаньня сыстэмы аховы здароўя ўсіх амэрыканцаў ды перагляду усіх праграмаў сацыяльнае дапамогі. Праз два гады амэрыканскі выбаршчык вырашыў, што ні дэмакратычная партыя ні сам прэзыдэнт не датрымалі сваіх абяцаньняў і дзеля гэтага на сёлетніх выбарах рэспубліканцы атрымалі большыню.

Ад 1-га студзеня 1995 году ў Вашынгтоне стануць пры ўладзе рэспубліканцы, пераважна кансэрватыўнага кірунку. Цікава, як гэта адаб'ецца на дачыненьнях ЗША да Беларусі? Наагул, калі закранаем гэтую тэму, дык на прэзыдэнцкім узроўні ў дачыненьні да Беларусі адносіны былі заўсёды прыязнымі.

Прэзыдэнт Двайт Айзэнгаўэр, абвесьціў у 1959 годзе Тыдзень Паняволеных Народаў і Беларусь разглядалася як паняволеная краіна; прэзыдэнт Рычард Ніксан быў першым амэрыканскім прэзыдэнтам, хто наведаў Беларусь; вельмі прыхільныя былі ад Беларусі прэзыдэнты Джон Кэнэды, Джымі Картэр, Джэральд Форд і Роналд Рэйган. У часе прэзыдэнства Джорджа Буша, Злучаныя Штаты прызналі новую дзяржаву Рэспубліку Беларусь, а прэзыдэнт Біл Клінтан настоіў, рызыкуючы шмат чым, каб у часе наведаньня Менску у студзені сёлета, наведаць Курапаты.

У амэрыканскім кангрэсе да Беларусі ставіліся парознаму, але заўсёды як у кангрэсавай палаце, гэтак і ў сэнаце, большыня амэрыканскіх законадаўцоў ставіліся прыхільна, верачы ў імкненьні беларусаў жыць сваім незалежным жыцьцём.

Ведама, што рэальнымі дачыненьнямі да краінаў, кіруюць якраз палітыкі ў абедзьвух палатах. Шмат з кім, хто ад студзеня 1995 году займе ў Вашынгтоне кіруючыя становішчы, беларусы-амэрыканцы знаёмыя. Ад даўна нашым выдатным прыхільнікам быў сэнатар Робэрт Доўл, заўсёды ў сэнаце ў падтрымку вызвольных асьпірацыяў беларускага народу выказваўся-сэнатар Джэсі Гэлмс, дзесяткі выступленьняў прысьвечаных Беларусі, асабліва ў сувязі з сакавіковымі сьвяткаваньнямі належаць кангрэсмэну Джэку Кэмпу ды агулам заканадаўцаў, якія жадалі, каб Беларусь стала незалежнай, налічаецца дзесяткі. Цяпер шмат гэтых дзеячоў будуць трымаць стырно кіраўніцтва. Напэўна сэнатар Джэсі Гэлмс будзе старшынём сэнацкага камітэту міжнародных дачыненьняў. Зразумела, што і з сэнатарам Доўлам і сэнатарам Гэлмсам і іншымі беларусы-амэрыканцы будуць і далей мець дачыненьні. Будуць мець зь імі дачыненьні таксама прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь. Можна таксама прыпушчаць, што эканамічныя пытаньні ў беларуска-амэрыканскіх дачыненьнях будуць галоўнымі. І вось тут паўстае пытаньне — ці будуць цяперашнія, больш кансэрватыўныя амэрыканскія заканадаўцы гэткімі-ж прыхільнымі да Беларусі, калі тая ўсё яшчэ азіраецца на Маскву, чакаючы ад яе міластыні? Прыпушчаць, што ня будуць.

Амэрыка гатовая і трымаць дзелавыя сувязі і дапамагаць найперш тым, хто хоча наладзіць сваё дзяржаўнае жыцьцё. Дапамагаць ды цесна супрацоўнічаць з тым, хто, як выглядае, свае незалежнасьці ня хоча — няма патрэбы. Пагатоў, што скарачэньне шматлікіх эканамічных праграмаў і дапамогаў, а ў першую чаргу замежным кліентам, будзе ў новых кіраўнікоў мець прыярытэт, бо-ж амэрыканцы жадаюць канкрэтных крокаў, ашчаднасьцяў, без якіх выйграць выбары рэспубліканцам у 1996 годзе будзе ня лёгка.

### ЯШЧЭ АБ САВЕЦКАЙ УЛАДЗЕ

Не прайшло й тыдня пасьля прыняцьця паправак да Закону «Аб мясцовым самакіраваньні і мясцовай гаспадарцы», як некаторыя народныя дэпутаты пачалі змагацца за аднаўленьне Савецкай улады на Беларусі.

Зазначым, што спроба дэпутата Піскарова сабраць подпісы пад зваротам у Канстытуцыйны суд, у якім адзначаецца неадпаведнасьць прынятых паправак Канстытуцыі, артыкул 6-ы якой сьведчыць, што ўлада на Беларусі належыць народу, была небезпасьпяховай. Народнаму дэпутату ўдалося сабраць 70 подпісаў.

## СЛУЧЧЫНА ПАЧАЛА ЗБРОЙНАЕ ЗМАГАНЬНЕ ЗА БНР

У лістападзе 1920-га году Случчына пачала збройную дзейнасьць супраць наступаўшага чырвонага войска, супраць новае акупацыі. Случчына ўзяла зброю пад сьцягам і ідэаламі беларускае дзяржавы — Беларускае Народнае Рэспублікі. Гэта было ідэалягічнае й збройнае змаганьне — канфрантацыя з бальшавікамі — чароднае выступленьне, прадаўжэньне гістарычнае традыцыі беларускіх народных збройных выступленьняў супраць расейскае экспансіі.

Вось спрошчана-скарочаны ход падзеяў, якія прывялі да Слуцкага Чыну.

Незалежнасьць Беларусі ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі была абвешчаная 25-га сакавіка 1918 году ды тады-ж і быў створаны дзяржаўна-кіраўнічы апарат новае дзяржавы ды распачатая палітычная дзейнасьць пад нацыянальным сьцягам

У тым часе з боку бальшавікоў ніякага руху да беларускай апрычонасьці ня было; бальшавіцкае вышэйшае кіраўніцтва і слухаць не хацела аб беларускай рэспубліцы. Аднак, падзеі разгортваліся так, што бальшавікі вымушаныя былі хоць крыху прыслухацца да голасу беларусаў. У выніку, 1-га студзеня 1919-га году, з малым гакам праз дзевяць месяцаў пасьля абвешчаньня БНР, бальшавікі згадзіліся на абвешчаньне ў Смаленску Савецкае Беларусі, БССР, але бяз ніякіх атрыбутаў дзяржаўнасьці. Акт у Смаленску, гэта больш паказальны жэст, чымся нейкая форма асобнае нацыянальна-адміністратыўнае структуры.

Лёс гэтага бальшавіцкага твору быў вельмі кароткатрывалы. Ужо ў пачатку лютага таго-ж году на зьезьдзе камуністычных арганізацыяў Літвы і Беларусі была прынятая пастанова, якая выказвалася за стварэньне новае формы для дзьвух рэспублікаў — Літоўска-Беларускае Рэспублікі, аб чым Якаў Сьвярдлоў, адзін з буйнейшых тагачасных камуністычных правадыроў, выказаўся гэтак: «Міжнароднае палажэньне змушае на стварэньне супольнае Беларуска-Літоўскае Рэспублікі і гэтая падзея дапаможа нам у змаганьні зь беларускім нацыяналізмам.» Аднак, у ліпені 1919-га году і гэты, бальшавікамі разыграны твор, мэтай якога было «змагацца зь беларускім нацыяналізмам», таксама быў зьліквідаваны. І гэтым разам на бальшавіцкім баку не засталося ніякае формы беларускае асобнасьці.

Тым часам беларускі нацыянальны урад, Урад БНР дзеіў: былі арганізаваныя палітычныя цэнтры ў Горадні, Коўне, Варшаве, пачыналася дыпляматычная дзейнасьць у Заходняй Эўропе, на Балканах, былі сустрэчы з амэрыканцамі.

Гэткі быў стан беларускага нацыянальна-палітычнага жыцьця ў сярэдзіне 1920 году, калі бальшавікі пачалі наступ на палякаў, якія ў тым часе былі акупантамі над часткай тэрыторыі Беларусі ды ў шмат якіх мясцох дзеіла беларуская адміністрацыя.

11-га ліпеня 1920-га году бальшавікі занялі Менск ды неўзабаве абвесьцілі «новую» беларускую рэспубліку, цяпер ужо ў памеры ўсяго шасьці паветаў былое менскае губэрні. Нешматлікія тады камуністы-беларусы мелі нязначнае слова у гэтых бальшавіцкіх махінацыях.

Як толькі бальшавікі пачалі арганізоўваць сваю ўладу на пэрэфэрыі, на Случчыне яны сустрэлі супраціў — там дзеіла мясцовая беларуская ўлада, быў беларускі апарат. Увосень 1920-га году адбыўся зьезд Случчыны, на якім і была прынятая канчатковая пастанова — заставацца Уладай Беларускае Дзяржавы ды не дапушчаць бальшавіцкіх прышэльцаў.

У лістападзе 1920 году Рада Случчыны — вышэйшы кіраўнічы ворган рэгіёну — выдае адозву, у якой падкрэсьляецца, што для Случчыны адзіная дзейная форма ўлады — гэта дзяржаўнасьць БНР і Случчына заклікае насельніцтва пад зброю, каб гэтыя ідэалы бараніць.

Далейшыя падзеі разгортваюцца досыць хутка. Случчына мабілізуецца. Бальшавікі перакідваюць на Случчыну з заходняга і іншых франтоў добра ўзброеныя баявыя адзінкі і пачынаюцца баі. Змаганьне разгортваецца гэтак, што Случчакі атрымваюць перамогі. Бальшавікі падкідаюць новыя рэзэрвы. У Случчакоў-жа рэзэрвы лімітаваныя. Хоць на баку Случчыны, пад сьцягам нацыянальнае дзяржавы БНР, у тым часе і сабралася каля 10-х тысячаў жаўнераў, на бальшавіцкім баку была вялікая перавага і ў колькасьці войска і ў узброенасьці яго. Змаганьне станавілася відавочна няроўным. Змаганьне на Случчыне было прайгранае.

Аднак ідэя нацыянальнае дзяржаўнасьці ня была зьнішчаная. Случчакі адступілі на Захад. Яны, праможаныя на Слуцкім Фроньце, ня былі пераможаныя ідэалягічна. Ідэя беларускае дзяржаўнасьці, ідэя змаганьня за незалежнасьць крочыла, шырылася. І гэтая ідэя была сымбалем беларускае эміграцыі, сымбалем сотням тысячаў паняволеных Масквой суродзічаў. І з гэтай ідэяй — дасягненьня беларускае незалежнасьці — беларуская палітычная эміграцыя ды дэмакратычныя колы на Бацькаўшчыне будуць крочыць далей.

**Вітаўт Кіпель**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПРЭЗЫДЭНТ А. ЛУКАШЭНКА НЕ ЗГАДЖАЕЦЦА

Выхад у сьвет першага прэзыдэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі не абыйшоўся без скандалу.

Спакойны прабег сустрэчы кіраўнікоў дзяржава СНД, якая адбывалася ў Маскве, перарываўся двойчы. І абодвы разы парушальнікам супакою быў прэзыдэнт Беларусі.

Больш за ўсё Аляксандра Лукашэнку абразіла прапанова прызначыць кіраўнікам калегіі Міждзяржаўнага эканамічнага камітэту (МЭК) таго самага Вячаслава Кебіча, які быў ня проста канкурэнтам Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах, але й віноўнікам таго ганебнага становішча, у якім апынуўся першы беларускі прэзыдэнт. Расейскі прэзыдэнт Барыс Ельцын быў вымушаны прызнацца, што ініцыятыва зыходзіла ад расейскага прэм'ера Віктара Чарнамырдзіна. А той у сваю чаргу, ведаючы аб рэпутацыі Кебіча сярод калег-прэм'ераў, на сваёй прапанове не настойваў. Такім чынам быў вычарпаны інцыдэнт, а крэсла кіраўніка МЭК засталося вакантным.

Другі выбух адбыўся, калі лідэры дзяржаваў пачалі абмяркоўваць ідэю Нурсултана Назарбаева аб Еўразыйскім саюзе. Аляксандар Лукашэнка катэгарычна заявіў, што гэтая ідэя накіравана супраць Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Зь ім пагадзіўся Барыс Ельцын, і прапановы казахскага прэзыдэнта былі толькі прынятыя да ведама.

**Мікола Дзябёла**

## МВФ ГАРАНТУЕ КРЭДЫТНУЮ ДАПАМОГУ БЕЛАРУСІ

Прадстаўніцтва Міжнароднага валютнага фонду пытаньне крэдытаў для Беларусі вырашыла наступным чынам. Нават калі сэсія Вярхоўнага Савету рэспублікі адхіліць праэкт праграмы антыкрызысных мераў, Беларусь атрымае першы крэдыт другой чаргі лініі сыстэмных трансфармацыяў памерам у 100 мільёнаў даляраў. Крэдыт «стэнд-бай» будзе выдавацца па частках. У выпадку адхіленьня Вярхоўным Саветам праграмы ўраду, Беларусь атрымае толькі першую частку крэдыту — выдзяленьне астатніх будзе прыпынена.

Прэм'ер-міністар Беларусі Міхаіл Чыгір ня выключае, што у часе разгляду праграмы на сэсіі Вярхоўнага Савету будзе выказана шмат крытычных заўвагаў, але праграма абавязкова будзе зацьверджаная парлямэнтам.

### *Прэзыдэнт А. Лукашэнка лечыцца ў Маскве й Сочы*

Як падаюць крыніцы электроннай інфармацыі, прэзыдэнт А. Лукашэнка правёў колькі часу ў канцы кастрычніка–пачатку лістапада ў Маскве ды на курорце ў г. Сочы, падлечваючы трывалую хваробу хрыбта. Тыя-ж крыніцы падаюць, што ў прэзыдэнта Беларусі — радыкуліт, які ўплывае на стан хрыбта.



**Дарагія суродзічы!**

Прыміце нашы шчырыя віншаваньні з нагоды 74-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну!

У нашай гісторыі ёсьць шмат геаічных старонак. Мы ведаем, што беларусы ў вольным сьвеце заўжды адзначалі іх. Гэта надавала нам сілы ў барацьбе з таталітарным рэжымам.

У 1992 годзе Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» разам зь іншымі дэмакратычнымі арганізацыямі ўпершыню публічна адзначыў угодкі Слуцкага Збройнага Чыну. У Менску, Слуцку, Семежаве адбыліся мітынгі, прайшла таксама навуковая акадэмія.

Дзякуючы намаганьням нацыянальных дэмакратычных сілаў, Беларусь адбудоўвае сваю дзяржаўнасьць. Мы верым у сьветлую будучыню сваёй Бацькаўшчыны, верым, што ў незалежнай дэмакратычнай Беларусі Слуцкі Збройны Чын, як і іншыя геаічныя падзеі нашай гісторыі, будуць афіцыйнымі нацыянальнымі сьвятамі.

Жыве Беларускі Народ! Жыве Беларусь!

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне»
Арганізацыйны камітэт па сьвяткаваньню
74-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну

## РЭАЛІІ Ў ЖЫЦЬЦІ РЭСПУБЛІКІ

Дзеяньні прэзыдэнта і Закон аб выбарах — дзьве тэмы, якія найбольш займаюць сёньня палітыкаў Беларусі. Пасьля вяртаньня зь лячэньня, Аляксандар Лукашэнка ўзяўся наводзіць парадак у дзяржаве камісарскімі мэтадамі. У выступленьні па нацыянальным тэлебачаньні ён паабяцаў вярнуць цэны, павышаныя за ягоную адсутнасьць, на ўзровень 1-га лістапада, разабрацца з прэсай, якая ня спыняе крытыку ў ягоны адрас, арыштаваць ворагаў, якія ня выконваюць ягоных указаньняў... Прамова была такой імправізацыйнай, што нават дарадцы з прэзыдэнцкай каманды публічна адмяжоўваліся назаўтра ад некаторых заяваў.

Канстытуцыйны суд прыпыніў пакуль увядзеньне ў жыцьцё закону аб прэзыдэнцкай вэртыкалі ўлады, людзі з каманды прэзыдэнта займаюцца нейкімі гучнымі праверкамі, пагрозамі, там-сям здымаюць людзей з пасадаў, але ўсё гэта з налёту, выпадкова, бясьсыстэмна. Непрафэсійная й марная праца.

Дарэчы, цэны на некаторыя тавары былі зьніжаны, вядома, не да ранейшага ўзроўню. Скажам чорны хлеб, які да апошняга падаражаньня каштаваў 390 рублёў, а стаў 503, воляю прэзыдэнта ацэнены ў 460. Высілкі дробязныя і кароткачасовага дзеяньня. Усё-ж задаволеныя ёсьць.

Вярхоўны Савет, цяпер пэрманэнтна дзеючы — тыдзень ідзе сэсія, потым два тыдні дэпутаты працуюць у камісіях або на сваёй асноўнай працы, і — зноў сэсія. Пачалі прымаць закон аб выбарах. Фактычна, папраўляць ранейшы. Падобна, што перамагла прапанова ўвесьці мажарытарную сыстэму. Але могуць яшчэ раптам да перагляду гэтага пытаньня вярнуцца... На праведзенай у Прэзыдыюме Вярхоўнага Савету нарадзе лідэраў палітычных партый, партый у Беларусі аказваецца 26. Вартасьці зьмешанай сыстэмы прадстаўніцтва ў Вярхоўным Савеце — па тэрыторыях і па партыйных сьпісах — не адмаўлялі ні сп. Грыб, ні ягоны намесьнік сп. Кузьняцоў.

Ня будуць спрыяць дэмакратычным сілам у часе выбараў такія ўжо прынятыя палажэньні, як немагчымасьць кандыдата карыстацца чыёй-бы там ні было матар'яльнай дапамогай збоку. Немагчымасьць вылучыць ад партыі кандыдата, які не зьяўляецца яе сябрам (у многіх сумленых людзей у нас ёсьць як-бы алергія на партыйную прыналежнасьць). І некаторыя іншыя. Як сказаў сп. Пазьняк, намэнклятурная большасьць Вярхоўнага Савету нагадвае клясычнага сабаку на сене: нас ня будзе тут, але і вы не разгуляецеся, маўляў.

## Прыватызацыю «падводзяць» законадаўцы

Абвесьціўшы на ўвесь свет аб сваім рашэньні пайсьці далей па шляху рынкавых рэформаў, кіруючыя ўлады Беларусі ўсё яшчэ сумняюцца, ці дапамогуць прыватызацыя і інвэстыцыі ў барацьбе з эканамічным упадкам.

На гэты конт парламэнтам рэспублікі даўно прынятыя законы, але недапрацаванасьць большасьці зь іх (скажам, закону аб замежных інвестыцыях, аб праве ўласнасьці на зямлю ў частцы замацаваньня за замежнымі інвэстарамі зямельных дзялянак на вызначаных умовах) робіць недасягальнай пэрспэктыву стварэньня транснацыянальных кампаніяў і фінансавых групаў.

Спэцыялісты падлічылі таксама, што калі ўнесьці як мага хутчэй папраўкі і дапаўненьні да дзейных заканадаўчых дакумэнтаў, што рэгламэнтуюць правядзеньне працэсу раздзяржаўленьня і прыватызацыі, дык бюджэт рэспублікі можа папоўніцца 40 (сарака) мільярдамі рублёў, у тым ліку, 26,5 (дваццацю шасьцю з паловай) мільярдамі рублёў ад прыватызацыі аб'ектаў гандлю, грамадзкага харчаваньня і сфэры паслугаў.

Што датычыць рынку каштоўных папераў дык з 1 (першага) ліпеня 1994 году толькі пяць камэрцыйных структураў атрымалі ліцэнзіі на права апэрацыяў зь імяннымі прыватызацыйнымі чэкамі (ІПЧ). І толькі адна зь іх можа пахваліцца, што 12 (дванаццаць) тысяч акцыянераў даверылі ёй больш за мільён прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць». Гэта — акцыянэрнае таварыства «Першы рэспубліканскі інвэстыцыйны фонд».

Заходнія экспэрты, якія працуюць у Менску ў рамках праграмы Эўрапэйскага саюзу па аказаньню дапамогі краінам Садружнасці, прыйшлі да высновы, што пакуль у заканадаўчыя акты не ўнесеныя пераконліва-паважныя зьмены, інвэстсэктар рэспублікі будзе знаходзіцца ў зародкавым стане. На іх думку, менавіта інвэстфонды павінны адыграць важную ролю ў працэсе прыватызацыі і «стаць пачаткам пераліваньня ашчаднасьці ў доўгатэрмінавыя інвэстыцыі на карысьць эканамічнага росту Рэспублікі Беларусь». Зьмяніць сытуацыю можа прыняцьце спэцыяльнага закону аб фондах і ўдасканаленьне сыстэмы падаткаабкладаньняў.

Закончыць на Беларусі выдачу ІПЧ плянуецца 1 (першага) ліпеня 1995 году. Але большасьць жыхарства рэспублікі яшчэ не атрымала іх, а цана чэку (у адносінах да намінала) абясцэньваецца з кожным тыднем.

# БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў ВАШЫНГТОНЕ



*Прысяга амбасадара К. Ялавіца*

24 кастрычніка 1994 г. новы амэрыканскі пасол для Беларусі сп. Кенэт Ялавіц прыняў прысягу ў шыкоўнай залі Дзяржаўнага Дэпартамэнту. На ўрачыстасьці было больш за дзьвесьце асобаў: сям'я й сваякі пасла, супрацоўнікі-дыпляматы, госьці, у тым ліку беларускі пасол сп. Сяргей Мартынаў з жонкай. Ад беларуска-амэрыканскае грамады былі Язэп Арцюх, рэдактар англамоўнага квартальніка «Белрускі Агляд», Расьціслаў Завістовіч, старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту, Янка Запруднік, сябра галоўнай управы БАЗА, Алеся Кіпель, сяброўка Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, сп-ня Надзея Кудасава, Аляксандар Сільвановіч, старшыня Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі пры БАПЦ.

Прадстаўляючы аўдыторыі сп. Кенэта Ялавіца, сп. Джэймс Коллінс, спэцыяльны дараднік дзяржаўнага сакратара па справах нованезалежных дзяржаваў (СНД) вельмі пахвальна выказуўся пра Беларусь і новага пасла ў Менск. Сп. Ялавіц у сваёй прамове адзначыў теленавітасьць беларускага народу й высокі ўзровень адукацыі ў Беларусі ды шыроказагорнутую прамысловасьць і сельскую гаспадарку. Сп. Ялавіц абяцаў зрабіць усё магчымае, каб дапамагчы Беларусі стаць заможнай, незалежнай і дэмакратычнай дзяржавай, пабудаванай на яе гістарычных традыцыях телерантнасьці і добрасуседзкіх адносінах да іншых народаў.

Папаўдні таго-ж дня беларуска-амэрыканская дэлегацыя наведала пасольства Беларусі, сустрэлася зь беларускім пасламі сп. Сяргеем Мартынавым. Гутарка вялася галоўна пра амэрыканска-беларускія дачыненьні ў сувязі з прыходам да ўлады прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі. Госьці выказалі занепакоенасьць пагрозаю адраджэньню беларускае культуры, эканамічнымі цяжкасьцямі Беларусі, сказалі пра сваю гатовасьць спрыяць паглыбленьню амэрыканска-беларускіх сувязяў, інфармацыйнага абмену. У прыватнасьці, паслу Мартынаву была перададзена просьба паспрыяць наладжаньню банкаўскіх каналаў, каб можна было апэратыўна перасылаць у Беларусь грошы, у тым ліку пэнсійныя фонды. Сп. Мартынаў паінфармаваў наведнікаў пра бягучыя перамовы паміж Рэспублікай Беларусь і Злучанымі Штатамі.



*Каля Дзяржаўнага Дэпартамэнту*

На наступны дзень, 25 кастрычніка, дэлегацыя ў складзе сп.сп. Я. Арцюха, Р. Завістовіча, Я. Запрудніка, А. Кіпель і А. Сільвановіча (ня здолела быць у складзе дэлегацыі дзеля сямейных акалічнасьцяў сп-ня Натальля Русак) сустрэлася ў Дзяржаўным Дэпартаманце з памочнікам дзяржаўнага сакратара сп. Джэймсам Коллінсам. На сустрэчы былі таксама новы пасол у Беларусь сп. Кенэт Ялавіц, сп. Майкл Сноўдэн, кіраўнік беларускага стала ў Дзяржэпартаманце, сп-ня Шэры Гросман, якая займаецца беларускімі пытаньнямі ў Агенцтве для Міжнароднага Разьвіцьця, і сп-ня Моніка Окіф, якая вядзе справы Расеі і Эўразіі ў Інфармацыйным Агенцтве ЗША. Адбылася паўтарагадзінная гутарка.

Перад сваім прыездам у Вашынгтон дэлегаты накіравалі ў Дзяржаўны Дэпартамант мэмарыял, у якім выказалі свае пагляды й прапановы што да амэрыканска-беларускага супрацоўніцтва (поўны тэкст мэмарыялу зьмешчаны ў бягучым выпуску квартальніка Belarusian Review).

У вусных тлумачэньнях да мэмарыялу дэлегаты выказалі дадатковыя прапановы, заклікалі Дзяржаўны Дэпартамант актывізаваць дзейнасьць Камітэту Разьвіцьця Амэрыканска-Беларускіх Адносінаў, пагадненьне аб якім было падпісана падчас візыту Прэзыдэнта Клінтана ў Беларусь у студзені сёлета. Апрача гэтага, дэлегаты гаварылі пра патрэбу стварэньня магчымасьці пасыланьня грошай і пэнсійных чэкаў у Беларусь без таго, каб беларускі бок ападаткоўваў іх; выкладаньне беларускай мовы ў Дзяржэпартаманце і падрыхтоўку беларускамоўных дыпляматаў ЗША; дапамогу лекамі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, харчы для беларускіх дзетак; дэлегаты прасілі таксама, каб ЗША, купляючы ў Расеі ўзбагачаны уран з дэмантаванае ядзернае зброі, дапамаглі Беларусі атрымаць ад Расеі плату за той уран, які паступае са зброі вывезенае зь Беларусі і за які Расея адмаўляецца даць беларусам належную кампэнсацыю.

Сп. Ялавіц паінфармаваў аб вельмі ўдалым нядаўным візыце ў Вашынгтон беларускае ўрадавае дэлегацыі на чале з новым Прэм'ерам РБ сп. Міхаілам Чыгірам.

Гутарка беларуска-амэрыканскіх наведнікаў Дзярдждэпартамэнту прайшла ў прыязнай атмасфэры пры шчырым зацікаўленьні ўсіх удзельнікаў з урадавага боку ў пашырэньні супрацоўніцтва зь Беларусяй, а таксама ў працягваньні кантактаў зь беларуска-амэрыканскім грамадзтвам.

Спатканьне са зп. Коллінсам у Дзяржаўным Дэпартаманце адбылося дзякуючы стараньням сп. Язэпа Арцюха, рэдактара «Беларускага Агляду». Найлепшым пацьверджаньнем удачы візыту была прапанова сп. Коллінса праводзіць гэткія спатканьні штоквартальна.

**Р.З. і Я.З.**



*У Беларускай амбасадзе, зьлева-на права: Алеся Кіпель, А. Сільвановіч, І. Завістовіч, Надзя Кудасава, Амбасадар С. Мартынаў, Р. Завістовіч, Я. Запруднік, Ю. Арцюх*

## *ПРЫНЯЦЬЦЁ Ў ВАШЫНГТОНЕ*



*С. Мартынаў, М. Чыгір, Алеся Кіпель, С. Багданкевіч. Фота В. Мельяновіча.*

15-га кастрычніка сёлета адбылося ўрачыстае прыняцьцё ў Беларускай амбасадзе ў Вашынгтоне з нагоды прыезду ў ЗША новага прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра й міністра Замежных справаў Уладзімера Сянько. Віталі гасьцей беларускі пасол у Злучаных Штатах сп. Сяргей Мартынаў з жонкай.

Беларускую дэлегацыю дапаўнялі сп. Станіслаў Багданкевіч, старшыня Нацыянальнага банку Беларусі, сп. Міхась Марыніч, міністар зьнешніх эканамічных сувязяў і сп. Валеры Міхайлаў, загадчык сакратарыяту Прэм'ер-міністра.

Таксама прысутным быў, тады яшчэ толькі прызначаны, цяпер ужо прысяжны, амбасадар ЗША ў Беларусі сп. Кэн Ялавіц.

На прыняцьці было даволі шмат запрошаных гасьцей, у тым ліку і група амэрыканскіх беларусаў — спадарства Мельяновічы, Завістовічы, Лук'янчыкі, Белямукі, др. Марыя Дзямковіч, сп. Янка Ханенка й сп-чна Алеся Кіпель.

Гутаркі йшлі на усялякія тэмы: эканамічнае палажэньне Беларусі, адносіны Беларусі з суседнімі краінамі, магчымасьці дапамогі Беларусі ад Амэрыканскай дзяржавы, і г.д.

Было прыемна чуць гутарку па-беларуску сярод асобаў, што займаюць высокія становішчы ў новай беларускай адміністрацыі. Таксама цікава адцеміць, што беларускасьць заўважаецца і ў абсталяваньні амбасады.

Мы, амэрыканцы беларускага паходжаньня спадзяемся, што гэтыя вонкавыя крокі адаб'юцца й на нутраныя справы Беларусі, ды, наогул, на пачуцьці народу ў штодзённым жыцьці.

**Алеся Кіпель**

## СУСТРЭЧА З ПРЭМ'ЕРАМ М. ЧЫГІРОМ У НЬЮ-ЁРКУ

У Беларускай місіі пры ААН у Нью-Ёрку адбылося 11 кастрычніка сёлета прыняцьцё ў гонар Прэм'ера беларускага ўраду сп. Міхаіла Чыгіра. Сп. Чыгір выступаў з прамовай на Генэральнай Асамблеі ААН, а таксама правёў шэраг спатканьняў у Вашынгтоне. Яго суправаджалі старшыня Нацыянальнага банку Беларусі сп. Станіслаў Багданкевіч, міністар вонкавых эканамічных сувязяў сп. Міхаіл Марыніч ды іншыя высокія ўрадаўцы. На прыняцьце былі запрошаны дыпляматы, журналісты, прадстаўнікі беларуска-амэрыканскага грамадзтва — усіх каля паўтараста асобаў, якіх афіцыйна сустракаў у залі прыняцьця галава Беларускай місіі пры ААН амбасадар Аляксандар Сычоў са сваёй спадарыняй. Амэрыканскія беларусы мелі добрую нагоду паразмаўляць з высокімі прадстаўнікамі беларускага ўраду, зрабіць супольныя здымкі на памяць сабе й гасьцям.

### Кардынал Беларусі

У кастрычніку сёлета, упяршыню ў гісторыі, Папа Ян Павал II прызначыў на Беларусь кардынала. Першым кардыналам Беларусі Папа вызначыў менскага архібіскупа Казіміра Сьвёнтака.

Падзея гэтая для Беларусі, бясспрэчна, важная, але польскасьць нованазначага кардынала змушае больш ды больш насьцярожвацца ды расчароўвацца ў палітыцы Ватыкану ў дачыненьні Беларусі.

## ШКОЛА Ў НЬЮ-ЁРКУ ДАПАМАГАЕ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЮ



1-га лістапада ў горадзе Сафэрн, у штаце Нью-Ёрк, адбыўся другі гадавы баль арганізаваны Фондам Рамапо ў Дапамогу ахвярам Чарнобылю. Мэта балю, як і ўсіх мерапрыемстваў мясцовай школы, сабраць было як мага болей грошай для закупу лекаў для дзяцей Беларусі. На балі было некалькі сот асобаў. Адным з галоўных прамоўцаў быў Аляксандар Сычоў, пасол Рэспублікі Беларусь у Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Ад беларускай дыяспары на балі былі Зора і Вітаўт Кіпелі.

Фонд Рамапо Дапамогі Дзецям Чарнобылю мае цікавую і нязвычайную гісторыю.

Вучні сярэдняй школы ў гарадку Спрынг Валей, у штаце Нью-Ёрк у праграме навучаньня краязнаўства, у сярэдзіне 1980-ых гадоў наведвалі Арганізацыю Аб'еднаных Нацыяў і зацікавіліся краінай Беларусь. Вясной 1986-га году група вучняў гэтай школы выбралася ў далёкае падарожжа у, тады яшчэ Савецкі Саюз, у Беларусь, дзе іх і застала красавіцкая Чарнобыльская катастрофа. Вучні былі пасьпешна эвакуяваныя і памысна дабраліся дадому. Аднак Беларуская трагэдыя глыбака закранула моладзь, іхных настаўнікаў, бацькоў і іншых жыхароў гэтай сардэчнай амэрыканскай ваколіцы — Рамапо.

Моладзь пачала зьбіраць дапамогу для пацярпеўшых ад Чарнобылю дзяцей Беларусі. У 1990-м годзе заснаваўся Фонд Рамапо, які сабраў да гэтага часу больш як на 8 міліёнаў даляраў вартасьцю мэдыкамэнтаў, розных рэчаў, прадуктаў і цацкаў для дзяцей Беларусі.

Вучні школы наладзілі ўжо, з мэтай перадачы дапамогі і азнаямленьня з краінай, некалькі экскурсіяў у Беларусь, апошняя адбылася ў траўні сёлета.

## УДЗЕЛ БЕЛАРУСА Ў МІЖНАРОДНАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ

Міжнародная навуковая канфэрэнцыя «Новая эліта ў пост-камуністычным сьвеце» адбылася 2-4-га лістапада сёлета ў Іст Лансінгу у сталіцы штату Мычыган. Была яна арганізаваная кафэдрай сацыялёгіі Мічыганскага штатнага унівэрсытэту. Удзельнікамі канфэрэнцыі былі ведамыя вучоныя, журналісты, прадстаўнікі новых груповак эліты Расеі, Украіны, Беларусі, Літвы, Узьбэкістану, Нямеччыны, вучоныя ЗША, студэнты Мічыганскага унівэрсытэту.

На працягу трох дзён удзельнікі канфэрэнцыі абмяркоўвалі праблемы станаўленьня палітычнай, эканамічнай, культурнай, навуковай эліты ў пост-камуністычных краінах (пераважна новых незалежных дзяржавах), яе ролі ў фармаваньні новай грамадзкай і дзяржаўнай сыстэмы ў гэтых краінах, узаемаадносінаў старой і новай эліты, фармаваньня злачыннай «эліты» і карупцыі.

Працай канфэрэнцыі кіравалі загадчык кафэдры сацыялёгіі Мічыганскага унівэрсытэту прафэсар Крыс Вандэрпул і прафэсар гэтай кафэдры Уладзімер Шлепэнтох. Па іх запрашэньню, ў працы канфэрэнцыі прыняў удзел і беларускі навуковец, прафэсар кафэдры міжнародных дачыненьняў Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту Уладзімір Снапкоўскі.

Ён зрабіў даклад на тэму «Тыпалёгія сучаснай беларускай эліты», у якім прааналізаваў гістарычны шлях станаўленьня беларускай эліты XX-га стагодзьдзя, жудасныя ахвяры, якія панесла беларуская нацыянальная інтэлігенцыя ў выніку сталінскіх рэпрэсіяў, асаблівыя рысы беларускай эліты, якія склаліся да мамэнту абвешчаньня незалежнасьці Беларусі (нацыянальны нігілізм, правінцыяналізм, канфармізм). У дакладзе знайшлі адлюстраваньне праблены станаўленьня новай палітычнай, эканамічнай, культурнай і навуковай эліты Беларусі. Асаблівую цікавасьць сярод удзельнікаў канфэрэнцыі выклікалі лічбы аб нацыянальным складзе сучаснай палітычнай эліты Беларусі, у якой колькасьць прадстаўнікоў рускай нацыянальнасьці зьяўляецца большай (у працэнтах) чымся колькасьць расейцаў сярод усяго насельніцтва Беларусі. Гэтая інфармацыя выклікала шмат пытаньняў, асабліва з боку расейскіх вучоных.

Даклад будзе надрукаваны ў матэрыялах канфэрэнцыі.

**У. Снапкоўскі**

### БЕЛАРУСКАЯ МАРАТОНКА Ў НЬЮ-ЁРКУ

Штогадовы маратонскі бег у Нью-Ёрку славіцца на ўвесь сьвет, у ім бяруць удзел бягуны — апошнімі гадамі ў сярэднім па 25 тысячаў спартсмэнаў і спартсменак — з самых розных краін сьвету. Сярод жанчын сёлетняга 25-га маратону была прадстаўніца Беларусі, Мадзіна Біктагірава, якая сярод жанчын заняла другое месца, пасьля прадстаўніцы Кеніі, Тэклі Лярупы. 21-гадовая Лярупа прабегла саракакілямэтровую дыстанцыю за 2 гадз. 27 хвілін 27 сэкундаў, а 30-гадовая Біктагірава — за 2 гадз. 30 хв. 00 сэк. Трэцяе месца заняла амэрыканка, чацьвертае — румынка, пятая — немка.

**Натальля Орса**

# УСПАМІНЫ

*(Працяг. Пачатак у № 411, 415)*



*Прага 1927 г. Зьлева направа: Франук Грышкевіч, Васіль Русак, Інж. Лаўскі, Адольф Клімовіч, Тамаш Грыб*

## *ПРАГА*

Нарэшце, зь вялікімі цяжкасьцямі, ў 1921 г. паехала ў Наваградак і паступіла ў 7-ю клясу гімназіі. Скончыла гімназію ў 1923 годзе і атрымала матуру з «дататкам». Усе матурыстыя праклінялі гэты дадатак. Гэта была пасьветка ад Віленскага куратара, ў якой есьцьвярджалася прызнаньне матуры раўнапраўнай з матурамі дарэвалюцыйнымі, але не давала права вучыцца ў вышэйшых навучальных установах на «Обшажэ Жэчы Посполітэй Польскі». Дык уласьціва гэты «дадатак» і спрычыніўся да шуканьня магчымасьці прадаўжаць навуку за межамі бацькаўшчыны.

Даведаліся мы, што ў Празе чэскай даюць студэнтам дапамогу й нашыя беларусы там ёсьць. Напісала я аднаму знаёмаму й папрасіла вестак пра мажлівасьці навукі ў Празе. Хутка атрымала адказ і поўны маршрут, як ехаць нелегальна (бо ён так ехаў)... «а тут аб усім даведаешся». Параіў абавязкава паехаць ў Вільню й папрасіць А. Луцкевіча, каб напісаў пару слоў да Вяршыніна. Паехала ў Вільню. А. Луцкевіч даў пісьмо й кажа: «Перадай Вяршыніну — гэта наш консул у Празе». Памаўчаў крыху, глянуў на мяне, усьміхнуўся й гаворыць: «я ўжо некалькі лістоў даў хлапцом і дзяўчатам, але ты першая дзяўчына, што едзеш нелегальна. Ты йдзеш у сьвет, ідзеш па сьлядох Скарыны. Здабывай навуку, беражы наш скарб — мову, а як скончыш, дай нашаму народу колькі будзеш мецьсілы. Дай Божа табе посьпеху». Калі даведаўся, што я маю замер чакаць усю ноч цягніка на станцыі папрасіў а. Аляксандра Каўша, каб узяў да сябе пераначаваць. «Ты падумай толькі: яна хоча ехаць нелегальна да Прагі вучыцца, я даў да Вяршыніна ліст». а. Аляксандар вельмі ахвотна запрапанаваў начлег, тым больш, што яны жывуць блізка станцыі. Пайшлі. Я пераспала, а рана выехала дамоў.

Прыехаўшы, я завядоміла майго сябру й парадзіла ему таксама паехаць да Луцкевіча й папрасіць рэкамэндацыю, што ён і зрабіў. Умовіліся сустрэцца ў Лідзе на станцыі пры цягніку, што йдзе ў патрэбны нам кірунак. Ва ўмоўлены дзень і час я там была, але майго сябры на было. Вырашыла чакаць наступнага цягніка, але й з наступным яго ня было, і я паехала адна. На патрэбнай мне станцыі вышла й накіравалася шукаць чалавека, што перапраўляў праз граніцу ды як раз і трапіла куды трэба. Сустрэў мяне гуцул гадоў 50 і сказаў — «Я — Марцін, я знаў, што вы прыедзеце бо тут ужо тры хлапцы, што хочуць пераходзіць граніцу, і яны казалі, што прыйдзе дзяўчына. Я вас усіх павяду ноччу. Паказаў мне ісьці ў хату, а сам недзе пайшоў. Праз некалькі часінаў вярнуўся й сказаў, што адзін хлопец хоча, каб я зь імі йшла, а два зь яго сьмяюцца, што трэба будзе ня толькі яе клунак цягнуць але й самую. Увесь мой клунак важыў ня больш як тры-чатыры фунты, а зьбіраючыся у такую дарогу ніяк не разьлічвала на чыюсь дапамогу, і таму вельмі было прыкра чуць такія гутаркі. Па некаторай надуме запытала яго ці можа мяне адну перавесьці. Сказаў што можа, але мушу плаціць адна тое, што ўсе разам, і што пойдзе са мною толькі на наступную ноч, бо хлопцы прыйшлі першыя. Ноччу перад адыходам загадаў мне ня выходзіць з хаты й нікому не адчыняць. Чакала я пакуль вернецца й не магла заснуць. Вярнуўся калі ўжо было відна й сказаў: «хіцілі». Я вельмі перанялася гэтым, а ён зайшоў за перагародку й хутка пачуўся храп з посьвістам на ўсю хату. Ён амаль увесь дзень праспаў, а я і на міг не заснула — усё стаялі перад вачамі хлопцы, ужо й злосьць на іх прайшла. Пад вечар прачнуўся й сказаў зьбірацца, а сам недзе пайшоў і доўга ня было, а як вярнуўся то гукнуў «ідэмо» й каля дзьвярэй чакаў покі я ўзяла пальто. Прышлі ў лес. Цёмна, страх мяне апанаваў такі, што я ўжо хацела вярнуцца, але ён

## З ЖЫЦЬЦЯ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ



*Хор «Васілёк» на Дажынках*

Парахвія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе адзначыла беларускае традыцыйнае сьвята «Дажынкі» ў нядзелю 30-га кастрычніка сёлета ў Грамадзкім Цэнтры Полацку. Урачыстасьць пачалася Божаю службай у залі Полацку. Затым прат. Міхась Страпко адслужыў малебен прысьвечаны дажынкам ды пасьвяціў плады жніва: хлеб, вянок сплецяны з кветак і каласкоў збожа й гародніну. Прат. Міхась коратка расказаў пра гэтую нашую старую традыцыю й зазначыў, што ў часе камуністычнае ўлады, яна нажаль не адзначалася й цяпер яе трэба аднаўляць.

Багаты й смачны абед складаўся з сьвежых шынак, прыгатаваных й Андрэям Стрэчыням на дварэ ды валовіны, бульбы, рознай гародніны, салаты й фруктовых печываў прыгатаваных жанчынамі прахвіяльнай рады.

Наступнай часткай праграмы быў канцэрт. Сцэна залі была ўпрыгожана жніўным збожам, кветкамі й сенам, гарбузамі, кукурузай (амэрыканская традыцыя). У канцэрце прыняў удзел Жаночы Хору «Васілёк» пад кіраўніцтвам Олі Лукашэвіч і акампанімэнтам заслужанага акрдыяніста Беларусі Фёдара Паўлаўца. Канцэрт распачаўся ўваходам у залю харыстаў у нацыянальных вопратках, якія несьлі хлеб, вянок, жніўныя каласкі, сьпяваючы песьню «Поле, ты поле» на словы Янкі Купалы, музыка М. Куліковіча. Оля Лукашэвіч і Толік Лук'янчук прывіталі прысутных са сьвятам дажынкаў, пажадалі ім добрага здароўя, шчасьлівага й вясёлага жыцьця на будучыню.

Рэпэртуар хору складаўся з 12 песьняў — патрыятычных, народных, жартоўных і рамантычных, з двух дуэтаў Олі Лукашэвіч і Любы Сяргеевіч і солё Любы Сяргеевіч. Шмат песьняў былі новыя, якія былі атрыманыя з Бацькаўшчыны. Выкананьне было добрае і захопленыя прысутныя узнагародзілі харыстаў даўгімі, даўгімі воплескамі.

Праз цэлы дзень адбывалася мастацкая выстаўка ведамага й слаўнага мастака зь Менску Эдварда Агуновіча. Прысутныя змаглі пазнаёміцца зь яго цікавай творчасьцю, а таксама набыць яго творы.

**К.П.**

Рэдакцыя газэты «Беларус», Управы БІНІМу й БАЗА, сябры й знаёмыя вітаюць

**АЛЯКСАНДРА ЛАШУКА**

ведамага грамадзкага дзеяча ў Вялікабрытаніі, актыўнага сябру Рады БНР зь яго 85-годзьдзем ды жадаюць яму добрага й здаровага жыцьця ў далейшым

## УШАНАВАНЬНЕ СЬВЯТА ДЗЯДОЎ

Парахвія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе ушанавала адно з пораў году й традыцыйнае рэлігійнае сьвята Дзядоў, якое адбылося ў нядзелю 6-га лістапада сёлета. Пасьля сьв. Літургіі прат. М. Страпко адслужыў агульную паніхіду па адыйшоўшых парахвіянах, іх родных і сваяках, па Сяргею Карніловічу ў гадавіну яго сьмерці, а таксама па ўсіх загінуўшах за Бацькаўшчыну. Пасьля паніхіды паехалі на беларускі магільнік, дзе паблагаславіўшы магілкі, пасьвяцілі помнік Сяргея.

У царкоўнай залі адбыўся памінальны абед. У часе абеду віталі былога міністра замежных справаў Беларусі Пётра Краўчанку, які быў прысутны на паховінах Сяргея і цяпер прыехаў на высьвячэньне помніка. Ён коратка схарактызаваў нябожчыка, як добрага беларуса, патрыёта, ахвярнага, любячага й адданага сваёй Бацькаўшчыне. Затым ён коратка расказаў пра падзеі ў Беларусі, падкрэсьліўшы, што эканамічнае становішча не зусім добрае — шмат спрычынілася да гэтага засуха.

Перабудова йдзе наперад, але запавольна, хоць трэба спадзявацца што ў будучыні палепшае. Пасьля афіцыйнай праграмы — гутаркі прадаўжаліся.

**К.П.**

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ЗАТРЫМАЕ ІНФЛЯЦЫЮ

Мяркуючы па дадзеных Міністэрства Дзяржаўнай Маёмасьці, разьвіцьцё працэсу прыватызацыі ідзе толькі на карысьць Беларусі.

На прадпрыемствах, якія былі пераўтвораныя ў акцыянэрныя таварыствы ў 1991-1993 гадох, вытворчасьць ў сярэднім вырасла больш як на 50 працэнтаў. А на «Амкадоры» і «Мілавіцы» — удвая. На трыццаі дзевяці прадпрыемствах ня толькі не звальняліся работнікі, але й былі створаныя 1400 новых працоўных месцаў. Гэта было дасягнута за кошт хуткага ўводу новых відаў прадукцыі і абнаўленьня яе асартымэнту.

Толькі ў 1994 годзе ў выніку правядзеньня прыватызацыі рэспубліканскі бюджэт атрымаў 14,7 мільярду рублёў. Сёньня ў распараджэньні Міністэрства знаходзяцца 34.5 мільёну акцыяў, якія можна прадаць за грошы. Яны будуць рэалізоўвацца цераз аўкцыёны, конкурсныя таргі і таргі Беларускай фондавай біржы. Як толькі будзе распрацаваны парадак продажу акцыяў на біржы (мяркуецца, што гэта адбудецца ў лістападзе) яны пачнуць працаваць, стрымваючы інфляцыю і прыносячы даход.

пачаў угаворваць, што «ўсэ будэ гаразд». Яму і ў голаў не прыйшло, што я яго баюся ня меньш, як таго што могуць злавіць. Ішлі досыць доўга, паміж кустоў, на балоце — я ледзь патрапляла за ім. Нарэшце прыглушаным голасам сказаў асьцярожна ступаць, каб пад нагамі не трашчала, бо тут ужо блізка граніца. Селі каля куста й сядзелі ціха некалькі хвілін. Крануў мяне за руку й паказаў на чалавечую постаць, што набліжалася ў наш бок. Гэта быў пагранічны патруль. Як толькі салдат прайшоў міма нас і вярнуўся назад, Марцін паказаў рукою пераходзіць дарогу (гэта была граніца). Я мігам перабегла дарогу й села пад кустом. Перад гэтым Марцін расказаў мне дакладна як ісьці далей, дзе перачакаць, у які бок накіроўвацца й якою мяжою ісьці. Самае галоўнае было перайсьці канаву па чыгуначных шпалах праз якую пераходу ня было, а толькі цягнікі хадзілі. Менш як чвэрць кілёмэтра стаяла хатка пагранічнікаў і ў бок гэтага чыгуначнага мосьціка выходзіла вакно, праз якое яны пільнавалі. Праз гэтае-ж вакно яны й хлапцоў пабачылі ды злавілі. Прайшоўшы гэты мосьцік адразу трэба было ўваліцца ў канаву й прайсьці ў кусты, а тады паміж кустоў адыйсьці далей ад гэтага пераходу й пачакаць пакуль ён дасьць сыгнал — калі махне белаю хусьцінкай тры разы то йдзі, а калі два — то чакаць пад кустом. Мажліва з нэрвовага напружаньня й страху згубіла тое мейсца, дзе пераходзіла мосьцік і адкуль меўся быць сыгнал; гляджу, шукаю, а яго няма й ня ведаю, што рабіць. Павярнулася ў другі бок і бачу — махае некалькі разоў па тры. Трэба ісьці, а слабасьць апанавала такая, што не магу перастаўляць ног. Мушу прабірацца далей ад пагранічнікаў. Ужо зусім разьвіднела. Людзі едуць працаваць на поле. Сабралася з сіламі й пайшла заглядаючы ў паперку, дзе запісана куды накіроўвацца. Нарэшце пабачыла шырокую мяжу, а на ёй статуя Маткі Божай. Так узрадавалася, бо тут ужо блізка станцыя, толькі перайсьці малую горку. Вырашыла трохі адпачыць.

На станцыі сказалі якім цягніком ехаць да Прагі й дзе рабіць перасядку, але білета не далі за польскія грошы, то мусіла йсьці ў горад, каб вымяняць грошы на чэскія кароны. Усё зрабіла й чакаю цягніка, што мае быць каля 5-й гадзіны па-паўдні. Як толькі цягнік рушыў увайшоў кандуктар праверыў білет і сказаў перасесьці ў Богуміле. У Богуміле мела клопат зь білетам. Баючыся, што могуць злавіць на граніцы й перакінуць назад у Польшу ня вымяняла ўсіх грошай, а толькі частку, за якія далі мне білет толькі да Багуміля. У Багуміле грошай ноччу вымяняць не магла. Парадзілі заплаціць у цягніку кандуктару. Заняла мейсца й еду ўжо аж да Прагі. Праз некалькі хвалін адчыняюцца дзьверы і гукае: «Білеты!» Каб мела білет або чэскія кароны ўсё было-б у парадку. Польскіх грошаў не захацеў браць, сказаў каб у Празе на станцыі ў банку выменела й яму заплаціла. Я абяцала гэта зрабіць і ён рушыў ісьці, а потым затрымаўся й пытае візу. Зрабілася мне горача і аж у вачох пацямнела. Стараюся не паказваць свайго хваляваньня, дастаю ліст Луцкевіча й даю. Ён чытаў, пераглядаў, а потым кажа: «Я ніколі ня бачыў такой візы, можа я не магу добра прачытаць па-руску.» Я сказала, што гэта па-беларуску напісана. Ён пачаў расказваць, што у часе вайны быў у палоне ў русаў і што людзі вельмі добрыя і яму жылося добра, і пайшоў, а я засталася са сваёю «візаю» й ня верыла што так усё скончалася. Каля 8-й гадзіны раніцай прыехалі ў Прагу. Кандуктар не забыўся пра мяне, завёў у банк, я выменела грошы й заплаціла ему зь ліхвою.

Вышла са станцыі й думаю: «Няўжож я ўжо ў Празе, няўжо не злавілі, няўжо ніхто нічога ня будзе ўжо пытаць?! Аднак яшчэ ня ўсё кончана. Трэба шукаць сп. Вяршыніна. Зь меркаваньняў эканамічных вырашыла дабірацца да Студэнцкага Дому пешкі. Паказалі на якой вуліцы. Пайшла. Баючыся сустрэцца з паліцыяй, пыталася ў людзей і дабралася да Студэнцкага Дому па дванаццатай. Села на лаўцы каб трохі адпачыць і надумацца што рабіць далей. Студэнты групамі і ў адзіночку мітусяцца туды-сюды. Ідзе адзін галаву апусьціўшы, нешта задумаўся. Чамусьці была ўпэўнена што нейкі зямляк. Устала з лаўкі й пытаю ці ня знае каго зь беларусаў, або якую беларускую арганізацыю. Усьміхнуўся, а потым: «І трэба-ж якраз трапіць, я беларус». Сказаў сваё прозьвішча ды пытае, ці гэта мяне хлопцы пакінулі на граніцы. — А хто вам сказаў? — О, сягоньня толькі й гутаркі ў Студэнцкім Доме пра гэта. Сп. Вяршынін як даведаўся пра іхнае захаваньне, сказаў, што ня будзе ім даставаць стыпэндыі. Хлапец завёў мяне ў Студэнцкі Дом. Тут зьбегліся студэнты і пачалі распытваць як і што. Парадзілі йсьці да сп. Вяршыніна — ён жыў хвілін 5 або 7 хады ад Студэнцкага Дому. Адзін сказаў, што йдзе ў той бок і завядзе мяне. Пайшлі.

Вяршынін, старэйшы чалавек гадоў 65, эміграваў з Расеі як сацыяліст пасьля няўдалай рэвалюцыі 1905 г., быў ува многіх краінах Эўропы покі не асеў у Чэхіі. Паходзіў з Панямоньня. Ён даставаў стыпэндыі для студэнтаў і дапамогу для нашага экзыльнага ўраду: Крэчэўскаму, Захарку, Цьвікевічу, Пракулевічу, Зайцу, Грыбу, Бадуновай і іншым. Я дала яму ліст ад сп. Луцкевіча. Прачытаўшы ліст папрасіў студэнта, каб схадзіў у Студэнцкі Дом і прывёў адну студэнтку, а мне кажа: «Яна завядзе вас да манашак начаваць, там затрымайцеся колькі можна, а як атрымаеце стыпэндыю то ім заплаціце. На маё запытаньне ці я магу быць упэўнена, што атрымаю, кіўнуў галавою, а потым сказаў што будзе старацца.

Справа са стыпэндыяй цягнулася амаль шэсьць тыдняў. Прышлося перажыць многа клопатаў, але неяк уладзілася. Пачала хадзіць на лекцыі і ўнармавалася студэнцкае жыцьцё.

*(Працяг будзе)*

## У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА



*В. Кіпель, Алена Юрэвіч, Л. Юрэвіч. Фота Я. Запрудніка*

29 кастрычніка ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага адбылася прэзэнтацыя новавыдадзенае кнігі Ул. Дудзіцкага «Напярэймы жаданьням» — выбраныя творы.

У праграму вечара ўвашлі: кароткі агляд працы над кнігай, які быў зроблены спадарыняй Аленай Юрэвіч, ды азнаямленьне з творамі У. Дудзіцкага, зробленае Лявонам Юрэвічам.

Спадарыня А. Юрэвіч, бібліёграф і камэнтатар да твораў У. Дудзіцкага, вельмі цікава прадставіла творчы шлях паэта, раўнуючы ягоны стыль, мову ды мэтодыку працы да іншых беларускіх і не беларускіх паэтаў, адзначыўшы цяжкасьці як у ідэнтыфікацыі вершаў паэта, гэтак і зьбіраньні ягонае творчае спадчыны.

Лявон Юрэвіч, рэдактар і аўтар уступнога артыкулу да твораў Ул. Дудзіцкага, адцеміў асоўныя напрамкі творчасьці паэта, ягоную спэцыфіку ды шырокадыяпазонную зацікаўленасьць.

Пасьля дакладаў завязалася жвавая дыскусыя, у часе якой шмат выступаўшых адзначылі выдатную працу спадарства Юрэвічаў, маці і сына, падкрэсьліўшы што праробленай працай яны вярнулі яшчэ аднага паэта-выгнанца у рэчышча культурна-літаратурнага развіцьця беларускае дыяспары ды таксама зрабілі даступнай спадчыну паэта дасьледнікам на Бацькаўшчыне.

## ДА БІЯГРАФІІ УЛАДЗІМЕРА ДУДЗІЦКАГА

Нарадзіўся 8-га студзеня 1911 году ў вёсцы Дудзічы, на Меншчыне. Вучыўся спачатку ў вясковай школе, а потым у сямігодцы ў Менску. Паступіў і вучыўся ў Менскім Пэдагагічным Тэхнікуме імя Ўсевалада Ігнатоўскага. Скончыць тэхнікум не давялося, бо быў арыштаваны як «нацдэм» і быў высланы ў канцэнтрацыйныя лагеры ў Сібір.

Па адбыцьці зьняволеньня працаваў у розных навучальных установах Беларусі, часта выяжджаючы ў суменжныя рэспублікі, хаваючыся ад магчымых рэпрэсіяў.

У часе вайны працаваў у Менску, актыўна праводзячы беларусізацыю тэатру да іншых культурных установаў гораду. Пасьля вайны апынуўся на захадзе. Жыў у Аўстрыі, а потым у Паўдзённай Амэрыцы. Нейкі час працаваў кіраўніком радыёстанцыі «Вызваленьне» ў Мюнхене. У канцы 1960-х гадоў вырашыў «вярнуцца» на радзіму і ягоны сьлед губляецца ў Савецкім Консульстве ў Вэнэцуэле.

У. Дудзіцкі найбольш друкаваўся на эміграцыі, у газэтах Раніца (Бэрлін), Бацькаўшчына (Мюнхэн), Пагоня (Зальцбург) ды ў іншых пэрыядычных выданьнях.

Зборнік твораў «Напярэймы жаданьням» апрацаваны Лявонам і Аленай Юрэвіч, а выдадзены БІНІМам, першы больш зборт твораў Уладзімера Дудзіцкага.

Збор твораў Уладзімера Дудзіцкага
*НАПЯРЭЙМЫ ЖАДАНЬНЯМ*
Нью Ёрк, 1994
можна набываць праз БІНІМ
230 Springfield Ave.
Rutherford, N.J. 07070

Цана кнігі 25 дал.

## Да гісторыі беларускае эміграцыі ў ЗША

Пяцьдзесят год таму, у верасьні 1944 году, у горадзе Пітсбургу, штат Пэнсыльванія адбываўся Другі Амэрыканскі Славянскі Кангрэс. Беларускім прадстаўніком на Кангрэсе ад Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага быў айцец Ян Тарасэвіч. На гэтам Кангрэсе айцец Я. Тарасэвіч меў даклад аб палітычным палажэньні на Беларусі ды распаўсюдзіў адпаведны мэмарандум як сярод удзельнікаў Кангрэсу, гэтак і разаслаў прадстаўніком амэрыканскага ураду.

Увосень 1944 году, у Нью Ёрку было арганізаванае Менскае Зямляцтва, якое зьбірала дапамогу БССР ды займалася уладжаньнем новых імігрантаў. Дзейнасьць зямляцтва была кароткатрывалая.

## НОВАЯ КНІГА

У выдавецтве БІНІМу, але выдрукаваная ў Беластоку, выйшла кніга аўтарства Яна Максімюка

БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ У ЗАХОДНЯЙ
НЯМЕЧЧЫНЕ, 1945–1950

Кніга Яна Максімюка — першае грунтоўнае дасьледваньне аднае з важнейшых галінаў дзейнасьці беларускае эміграцыі — адукацыі й выхаваньня нацыянальнае самасьвядомасьці ў маладога пакаленьня, якое у выніку ваенных падзеяў апынулася ў Заходняй Эўропе. Кніга выдатна ўдакумэнтаваная, ілюстраваная й дапоўненая паказальнікамі і бібліяграфіяй.

Набываць кнігу можна праз БІНІМ.

## СУСТРЭЧА ЗЬ ПЯТРОМ КРАЎЧАНКАМ

5-га лістапада сёлета ў Нью-Ёрку у Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага адбылася сустрэча сяброў беларускае дыяспары з былым міністрам замежных справаў Рэспублікі Беларусь Пятром Краўчанкам, які і раней, яшчэ ў ранзе ўрадаўца, почасту бываў гасьцём гэтай аўдыторыі.

Ва ўступным да сустрэчы слове др. Вітаўт Кіпель, між іншым, адзначыў, што ў часы свае міністэрскае працы Пётр Краўчанка энэргічна вёў беларускую палітыку і найперш ставіў Беларусь на палітычную карту сьвету.

Затым слова ўзяў госьць і ў кароткай прамове падвёў вынікі сваёй чатырохгадовай працы на пасадзе міністра замежных справаў. Так прысутныя даведаліся, што за азначны тэрмін:

– павялічыўся асабовы склад міністэрства, ад 20-ёх асобаў да 150-ёх;

– Беларусь падпісала 960 двухбаковых міжнародных пагадненьняў;

– была прынятая пастанова пра стварэньне 32-х пасольстваў Рэспублікі Беларусь за мяжой;

– Рэспубліка Беларусь атрымала ад Злучаных Штатаў Амэрыкі больш за 100 мільёнаў даляраў у межах пагадненьня аб ядзерным разбраеньні і 5 мільёнаў на скарачэньне звычайных ўзбраеньняў.

Далей Пётр Краўчанка пазнаёміў сяброў дыяспары са сваёй ідэяй стварэньня найбольшага ў сьвеце габэлена (19 х 15 м.) пад назовам «Габэлен ХХ-га стагодзьдзя». Праца над ім, дарэчы, блізіцца канца і неўзабаве мусіць адбыцца прэзэнтацыя. Сярод найвялікшых дзеячоў сьвету нашага стагодзьдзя (усяго ля 100 асобаў) выявы Івана і Антона Луцкевічаў ды Янкі Купалы. Аўтар праэкту мастак Цішчанка.

Наконта сваіх плянаў на будучыню сп. Краўчанка паведаміў, што створаны ды ўзначалены ім і, нядаўна зарэгістраваны Менскім гарвыканкомам «Фонд эканамічнага і палітычнага прагназаваньня і стратэгіі», распачынае сваю працу. У сувязи з гэтым госьць папрасіў дыяспару падтрымаць фонд у любой форме.

## Лекцыя Зьмітрака Левіта

Сем каленаў ... Кагал ... Пагромы ... Перасяленьні ... Гандляры ... Квотнікі. Усё гэта, аблямаванае досыць падрабязнай інфармацыяй пра жыдоўскую веру, звычаі і сьветагляд, на працягу добрай гадзіны трымала ўвагу дапытлівай грамады беларусаў, што сабралася 5-га лістапада сёлета у Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага на лекцыю Зьміцера Левіта, якую арганізаваў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.

Пачалася лекцыя досыць нетрадыцыйна — з дыскусыі тэрміналёгіі. На ўступнае слова др. Вітаўта Кіпеля, у якім прагучала і гісторыя ўжываньня беларускімі эмігрантамі словаў гэбрэй (з падачы Антона Адамовіча) і яўрэй, дакладчык катэгарычна выказаўся на карысьць традыцыйнага — жыд.

Затым прысутныя пачулі гісторыю зьяўленьня жыдоў на Беларусі ў 1323 годзе пры князі Гэдыміне. А ў 1388-м годзе, 1-га ліпеня Вялікі князь Вітаўт дараваў ужо жыдом прывілей на стварэньне самакіраваньня ў Берасьці.

«Наагул-жа, калі гаварыць пра Княства, сказаў прамоўца, — то жыды ў ім займалі прывілегіяванае становішча, бо спрыялі гандлю ды, плоцячы падаткі, істотна папаўнялі грашымі дзяржаўную скарбніцу.»

Далей Зьміцер Левіт закрануў пытаньні жыдоўскай рэлігіі, ды адцеміў становішча жыдоў у царскай Расеі пасьля таго, як Беларусь сталася ейнай часткай.

Амаль не падаючы імёнаў выдатных дзеячоў жыдоўскага народу зьвязаных зь Беларусяй, прамоўца пры дапамозе фактаў, ўсё-ж змог раскрыць слухачом ролю свайго народу ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны.

Асаблівую ўвагу прысутных выклікалі зьвесткі аб гісторыі жыдоўскай рэлігіі, якая й сталася асноўным тэматам пытаньняў ды дыскусыяў.

**Сяржук**

## МІХАСЬ ТКАЧОЎ
## 1942 – 1992

У Беларускім Інстытуце Навукі й



Мастацтва была ўшанаваная, у другую гадавіну яго сьмерці, памяць Міхася Ткачова, ведамага беларускага археалёга, др. гістарычных навукаў, палітычна-грамадзкага дзеяча беларускага незалежніцкага руху.

У Менску, у выдавецтве «Беларуская Энцыклапэдыя», дзе М. Ткачоў супрацоўнічаў даўгія гады, выйшла сёлета кніга публіцыстыкі М. Ткачова «Паходня».

## ПАЛІТЫЧНАЯ ПУБЛІЦЫСТЫКА ГАЗЭТЫ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Менскае выдавецтва «Мастацкая літаратура» выдала сёлета зборнік артыкулаў, дакумэнтаў і ўспамінаў, апублікаваных у пэрыядзе 1940-1960-х гадоў у беларускіх замежных выданьнях: газэце «Бацькаўшчына», часапісе «Конадні» ды ў раньніх нумарох «Запісаў Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва». Кніга выйшла ў сэрыі «З гісторыяй на 'Вы'», трэцяя ў гэтай сэрыі. Калі хто яе хоча набыць, мусіць ведаць, што папярэдні выпуск, 2-гі, быў памылкова названы «трэцім».

Укладальнік апошняга зборніка «З гісторыяй на 'Вы'» (352 ст.) і аўтар прадмовы — Янка Запруднік. У кнізе прадстаўлены аўтары: Тодар Беларускі (псэўданім), Д. Ясько, Ст. Станкевіч, Я. Менскі (І. Плашчынскі), Ю. Віцьбіч, Н. Арсеньнева, Л. Рыдлеўскі, А. Карповіч, П. Сыч, Я. Станкевіч, У. Сядура, Н. Палонская-Васіленка, Кветка Вітан, Ф. Кушаль, А. Эссон, Л. Акіншэвіч, М. Куліковіч, І. Дварчанін, А. Адамовіч, С. Брага (В. Тумаш), Я. Запруднік. Кніга мае імянны паказальнік, ілюстраваная.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» замовіла ў сп. Запрудніка яшчэ адзін гэткі зборнік матар'ялаў зь беларускіх эміграцыйных выданьняў, над якім цяпер вядзецца праца.

**АЛЯКСАНДРА МІЦКЕВІЧА**

адданага грамадзкага й царкоўнага дзеяча, даўгагадовага старшыню Нью-Ёркскага адзьдзелу БАЗА, рэдактара «Вестак і Паведамленьняў», сябру рэдкалегіі «Беларуса» шчыра вітаюць з 75-і годзьдзем ды жадаюць здароў'я й посьпехаў у грамадзкай працы Галоўная Управа БАЗА, БІНІМ, газэта «Беларус» ды шматлікія супрацоўнікі й сябры

Шчыра вітаем ды жадаем моцнага здароўя, добрага настрою і ўсякай памыснасьці вельмі паважанай заслужанай шматгадовай працаўніцы на грамадзкай ніве

**Спадарыні ЯНІНЕ КАХАНОЎСКАЙ**

на ейны дзень нараджаньня.

*Управы: Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Рэдкалегія «Беларуса»*

## ЗРОБЛЕНА Ў БЕЛАРУСІ



*Сп. А. Сільвановіч з сувэнірамі*

На працягу даўгога часу высакаякасныя сувэніры — саломкавыя або льняныя лялькі, шматколерныя шкатулкі, талеркі, хлебніцы, абразкі, па-мастацку выкленеыя саломкай у тыпова беларускім стылі — траплялі ў Амэрыку пераважна як сувэніры, прывезеныя замежнымі наведнікамі або сваякамі зь Беларусі.

Амэрыканскія беларусы заўсёды бяруць удзел у міжнацыянальных фэстывалях і выстаўках, што пэрыядычна ладзяцца па цэлай Амэрыцы, дзе яны з гонарам паказваюць мастацтва і ўмельства сваіх суродзічаў з Бацькаўшчыны. Згаданыя вышэй сувэніры пачалі ўсё больш зьяўляцца на гэтых фэстывалях і выстаўках. Рэакцыя наведнікаў выставак зўсёды вельмі пазытыўная з прадбачальнымі пытаньнямі: «Ці гэта прадаецца?» або «Дзе гэта можна купіць?» Адказ, на жаль, найчасьцей быў: «Не, не прадаецца» і «Адзінае месца, дзе такое можна купіць, — гэта Беларусь». Нават у сувэнірным магазыне галоўнага будынку Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў у Нью-Ёрку, дзе можна знайсьці сувэніры з усіх канцоў сьвету, ня было ніводнага зь Беларусі, незважаючы на факт, што Беларусь — член гэтай арганізацыі ад самага пачатку ейнага існаваньня.

Усё гэта зьмянілася, паводля Алекса Сільвановіча, старшыні карпарацыі АНС Інтэрнашэнл (ANS International, Inc.) (тэл.: 908 254-6527, факс: 908 254-8951), новазаснаванай фірмы, што імпартуе ручныя вырабы зь Беларусі. Сп. Сільвановіч сказаў: «Цяпер Беларусь будзе мець магчымасьць паказаць мастацтва сваіх умельцаў ды падзяліцца зь іншымі людзьмі прыгаством, якое яны ствараюць, і адначасна прыдбаць сабе крыху вельмі патрэбнае валюты». Ён з задаваленьнем адзначыў таксама, што сувэнірны магазын ААН — адзін з першых заказчыкаў сярод ягоных кліентаў.

Наступны раз, калі вам давядзецца пабачыць лялькі з саломкі або лёну, ці выкладзеныя саломкай у дзівосныя ўзоры шкатулкі або талеркі, прыгледзьцеся да іх зблізка і паглядзеце ці на іх сказана: «Зроблена ў Беларусі».

## ТРАНСПАРТНЫ КАЛІДОР — ПРАЗЬ БЕЛАРУСЬ

Транспартны калідор «Бэрлін – Масква» пройдзе і цераз тэрыторыю Беларусі.

Еўрапэйскі банк рэканструкцыі і разьвіцьця ўжо выдзяліў Міністэрству транспарту Рэспублікі крэдыт у памеры 45 мільёнаў ЭКЮ для рэканструкцыі часткі шашы на працягу 230 кілёмэтраў. Дарога будзе платнай. Праэкт прадугледжвае й дапамогу Беларускай чыгунцы ў арганізацыі хуткага, а затым і звышхуткага пасажырскага руху. Заходнія партнёры спадзяюцца на ўдзел прыватнага капіталу у ажыцьцяўленьні гэтай праграмы. Іх дзеяньні, аднак, стрымліваюцца дзеля недасканаласьці заканадаўства Беларусі.

### БЕЗПРАЦОЎЕ Ў БЕЛАРУСІ РАСЬЦЕ

Безпрацоўе ў правінцыі расьце куды больш хуткімі тэмпамі, чым у сталіцы, дзе яно стабілізавалася на ўзроўні 1.1-1.2%. У Менскай вобласьці безпрацоўе дасягае 2.32%, а у Брэсцкай — 2.15 працэнтаў.

**Узровень жыцьця ў Беларусі**

Як падае Дзяржкамстат (Статыстычнае Упраўленьне Рэспублікі) панад 5 мільёнаў жыхароў рэспублікі жывуць ніжэй узроўня беднасьці. Самыя нізкія заробкі ў рэспубліцы маюць працаўнікі галіны аховы здароўя — іх сярэдні месячны заробак 61.809 беларускіх рублёў, а працаўнікі калгасаў (калгасьнікі) у сярэднім зарабляюць панад 64.797 беларускіх рублёў месячна.

### РЭФЭРЭНДУМУ АБ ДВУМОЎІ НЯ БУДЗЕ

Цэнтральная камісія Беларусі па правядзеньні выбараў і рэфэрэндумаў дала адмоўны адказ групе грамадзянаў, якія дамагаліся вынесьці на рэфэрэндум пытаньні аб скасаваньні Белавежскага пагадненьня (ліквідацыя СССР) ды аб наданьні афіцыйнага статусу ў Беларусі расейскай мове. Сваю адмову камісія абгрунтавала спасылкай на Закон «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)», які кажа:

«На рэспубліканскі рэфэрэндум ня выносяцца пытаньні, якія парушаюць неад'емныя правы народу Рэспублікі Беларусь на сувэрэнную нацыянальную дзяржаўнасьць, дзяржаўныя гарантыі існаваньня беларускай культуры і мовы».

### НА БЕЛАРУСІ ПАМІРАЕ БОЛЬШ, ЧЫМ РОДЗІЦЦА

У 1993 годзе на Беларусі памерла жыхароў на 11,2 тысячы больш, чым нарадзілася. Выручае краіну тымчасам дадатні міграцыйны балянс: у Беларусь прыяздждае на сталае жыхарства больш людзей, чым выязджае, і такім парадкам агульны лік жыхароў рэспублікі ў 1993 годзе ўзрос на 20 тысячаў асобаў.

Летась зь Беларусі амаль 7 тысячаў людзей выехала ў заходнія краіны, а 46 тысячаў — у краі блізкага замежжа. Затое ў Беларусь прыехала з блізкага замежжа, ці дакладней сказаць, вярнулася 82 тысячы.

Падаючы гэтыя і іншыя лікі, намесьнік Старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі сп. Уладзімір Русакевіч сказаў, што апошным часам у Беларусь «хлынуў паток так званых бежанцаў з краін Азіі, з усходу і поўдня. Вельмі шмат зь іх, праўда, — зазначыў сп. Русакевіч, — спрабуюць выкарыстаць нас як транзытны калідор для прарыву ў заходнія краіны, аднак нямала і тых, хто, азнаёміўшыся бліжэй зь Беларусьсю, пастанавіў тут застацца абвесьціўшы сябе бежанцам» *(Народная газета, 22-24.X.94)*

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНІМ

| | |
|---|---|
| М. і В. Сьнежка | ам. дал. 100 |
| В. Кажан | 40 |

## ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі, фатаграфіі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп.сп. Я. Сурвілла, Ч. Найдзюк, М. Швэдзюк, В. Рамук, А. Сільвановіч, В. Кажан, В. Багдановіч, В. Трыгубовіч, Ю. Кіпель.

### *Ажыўленьне перамоваў паміж Латвіяй і Беларусьсю*

У кастрычніку–лістападзе пачаліся інтэнсыўныя й рэчовыя перамовы паміж Латвіяй і Беларусьсю з мэтай урэгуляваць шмат існуючых непаразуменьняў ды наладзіць эканамічнае супрацоўніцтва. Беларусь зацікаўленая прадаваць Латвіі сельскагаспадарчыя машыны, некаторыя прадукты, а купляць вырабы латышскае прамысловасьці. Беларусь гэтаксама зацікаўленая атрымаць ліцэнзіі на карыстаньне латвійскімі партамі ды ўрэгуляваць праблему кантактаў жыхароў у прыгранічных раёнах, нелегальную міграцыю ды перасылку грошай з аднае краіны ў другую. Да гэтага часу шмат пагадненьняў ня былі залагоджаныя, бо латышскі сэйм стрымоўваў ратыфікацыю раней дамоўленых беларускалатышскіх пагадненьняў.

### НЯМЕЧЧЫНА — ПАРТНЁР НУМАР ДВА

Дадзеныя аб удзельнай вазе Нямеччыны ў агульным абыйме зьнешнегандлёвага абароту Беларусі сьведчаць аб тым, што Нямеччына ў сярэдзіне 1994 году фактычна стала другім зьнешнегандлёвым партнёрам Рэспублікі.

Тэмпы росту ўдзелу Нямеччыны ў зьнешнім гандлі Беларусі некалькі вышэй за Расею. Гандаль з Расеяй вырас ад 1992 году да першага паўгодзьдзя 1994 у 1.6 разы, Нямеччыны — у два разы. У той-жа час удзел экспарту Нямеччыны вырас ў 2.7 разы, а Расеі толькі ў 1.6.

### *СПРАВАЗДАЧА*

Для дапамогі перавозу 9-х кантэйнэраў харчоў для дзяцей у Беларусі (харчы былі ахвяраваныя кампаніяй Gerber Baby Food) была сабраная сума грошай:

| | |
|---|---|
| Фонд Чарнобыля, Чыкага (грошы прысланыя сп. Верай Рамук) | ам. дал. 500 |
| В. і Ф. Бартуль | 250 |
| В. Заморская | 200 |
| З. і В. Кіпель | 200 |
| У. Набагез | 200 |
| А. Занкавіч | 200 |
| Н. Запруднік | 200 |
| К. Мерляк | 100 |
| Я. Запруднік | 100 |
| А. Райт Дэнталь | 100 |
| Л. Фачынэлі | 50 |
| А. Бартуль | 50 |
| А. Бартуль | 50 |
| А. Акуліч | 25 |
| Разам | 2.225.00 |

Харчы былі дастаўленыя на Беларусь пры дапамозе Citi Hope International.

Шчырая падзяка ўсім ахвярадаўцам, з пашанай

**Вера Бартуль**

## РАЗЬВІТАНЬНЕ З СЯБРОЎКАЙ



У сераду 19 кастрычніка беларуская грамадзкасьць Вільні праводзіла на вечны спачын сваю дарагую сяброўку Зою Каўшанку-Кратовіч, шчырую патрыётку, актыўную ўдзельніцу тутэйшага грамадзкага жыцьця. Не прыпадкова яе труна была накрыта сьвятым для ўсіх сумленных беларусаў бел-чырвона-белым сьцягам...

Адыйшоў яшчэ адзін «чалавек з мінулага», як яшчэ нядаўна з пагардай і нянавісьцю называлі нашых сумленых суродзічаў ідэолягі кампартыі каляніяльнай Беларусі, усяляк замінаючы адраджэньню беларускіх традыцыяў у Вільні. Ды іх намаганьні аказаліся марнымі і само жыцьцё ўнесла свае здаровыя карэктывы. Якраз тое мінулае, зь якога вырасла пакаленьне Зоі Каўшанкі ды якое мела за аснову пашану да сваёй культуры і роднай мовы, сапраўдную, а не паказную хрысьціянскую мараль, і забясьпечыла сёньняшнее аднаўленьне колішніх традыцыяў ды пэрспэктыву ў будучыні. Гэта засьведчыла прысутнасьць ля яе магілы ня толькі «віленскіх недабіткаў», але таксама сярэдняга пакаленьня і моладзі — беларускіх студэнтаў і вучняў.

Зоя Каўшанка нарадзілася 16 красавіка 1911 году ў Любліне, дзе бацька яе працаваў у банку. Сам ён быў родам з Горадзеншчыны. Хаця меў скончаную настаўніцкую сэмінарыю ды крыху настаўнічаў, але пазьней перайшоў на працу ў банку. Пачалася вайна. У 1914 годзе банк быў эвакуяваны на ўсход з усімі супрацоўнікамі і іх сем'ямі. Малой Зоі давялося павандраваць па Расеі, на цэлых сем гадоў вайна разлучыла яе з родным краем. Нават на чужыне пачала хадзіць у падрыхтоўчыя клясы гімназіі. Урэшце ў 1921 годзе бацькі вярнуліся на Радзіму. У Горадні жыла яшчэ бабуля Зоі, якой было ўжо каля сотні гадоў — там і прыпынілася ў яе старэнькай хатцы.

Бацька быў чалавекам веруючым, вырашыў рыхтавацца на сьвятара. Лічыў, што такая праца будзе для яго найбольш адпаведнай ды зможа гэтым паслужыць свайму абяздоленаму народу. Ён дамогся свайго і быў высьвячаны на праваслаўнага сьвятара.

Атрымаў прыход ў Ваўкавыскім павеце. Дачушку пачаў рыхтаваць да сярэдняй школы, падрыхтаваўшы дома па праграме трох першых клясаў гімназіі. Увосень 1925 году яна здала іспыты і паступіла ў 4-ую клясу Віленскай Беларускай Гімназіі. І хаця ў 20-ці кілямэтрах была польская гімназія ў Ваўкавыску, ды бацька адвёз яе за 200 кілямэнтраў у Вільню, дзе прыдбалі на Антокалі драўляны дамок, дзе Зоя пражыла да канца сваіх дзён.

Гімназію закончыла ў 1929 годзе, затым скончыла юрыдычны факультэт Віленскага Унівэрсытэту. Ва ўмовах міжваеннай Польшчы беларусу нават з дыплёмам цяжка было ўладкавацца на працу. У пошуках яе прайшлі два гады да 1939 году, калі скончылася польская акупацыя. Але варункі не палепшалі, даводзілася прабівацца на розных работах не па спэцыяльнасьці.

Улетку 1941 году, калі грымнула нямецка-савецкая вайна, у Вільні ўзьнік Беларускі Нацыянальны Камітэт. Першы старшыня Камітэту прафэсар Вацлаў Іваноўскі запрапанаваў Зоі Каўшанцы там становішча юрысконсульта. Працавала яна на працягу ўсяго акупацыйнага часу да 1944 году ўключна. Камітэт існаваў у вельмі складаных варунках. Яго мэтай была апека над беларускім насельніцтвам, якое жыло ў межах Літвы, а таксама захаваньне тут культурнай спадчыны, што назапашвалася папярэднімі пакаленьнямі. Гэта і беларускія школы, і гімназія ды Беларускі музей. Выходзіла беларуская газэта «Голас Беларуса», нейкі час вяліся і беларускія радыёперадачы, але іх забаранілі мясцовыя літоўскія ўлады. Існавала і заўважнае грамадзкае жыцьцё. Бадай самае істотнае было тое, што камітэт сыстэматычна вызваляў з вастрогаў людзей, якіх без сур'ёзнай падставы арыштоўвалі нямецкія ці літоўскія ўлады.

Перад наступленьнем бальшавікоў Зоя Каўшанка выехала на Захад. Але дзякуючы няспрыяльным абставінам ці мо ўласнай неасьцярожнасьці яна трапіла ў рукі савецкіх уладаў і была рэпрэсаваная. Мусіла адпакутаваць доўгія гады ў паўночных канцлагерах. У Вільню вярнулася пасьля гэтак званай «хрушчоўскай адлігі». З цяжкасьцю дамаглася права жыць у сваёй уласнай хаце,ды ўрэшце ўсё неяк уладкавалася. У пачатку 60-х гадоў выйшла замуж за таксама былога палітвязьня Кратовіча, яго ўжо таксама няма ў жывых.

Сьціплая хатка спадарыні Зоі заўсёды вабіла да сябе беларусаў-віленчукоў, тутака гуртаваліся яны нават у часы, калі афіцыйна ніякага беларускага грамадзкага жыцьця ў Вільні не існавала. Гэта быў адзін з асяродкаў, дзе цепліўся той агеньчык, дзякуючы якому ў пераломны час узьніклі ў Вільні першыя беларускія суполкі. З таго часу яна актыўна ўдзельнічала ў бальшыні імпрэзаў, якія цяпер ладзяцца ў віленскім беларускім асяродзьдзі, пераносячы лепшыя традыцыі мінулага ў сёньняшні дзень.

**Лявон Луцкевіч**

## АХВЯРАВАНЬНІ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ

| | |
|---|---|
| А. Тэлеш | ам. дал. 95 |
| М. Грэбень | 40 |
| Б. Даніловіч | 25 |

У папярэднім нумары былі памылкова пададзеныя прозьвішчы некаторых ахвярадаўцаў.

*Ахвяраваньні далі:*

| | |
|---|---|
| М. Гурын | ам. дал. 20 |
| В. Дзяркач | 20 |
| Н. Малочка | 5 |

Далейшыя ахвяраваньні пасылаць на адрас:

Mrs. Luda Machniuk
102 William Street
Jamesburg, N.J. 08831

## СЬВ. ПАМЯЦІ КАЦЯРЫНА МАЗУРО



2-га кастрычніка 1994 году адыйшла на вечны супачынак Кацярына Мазуро, пакінуўшы ў вялікім смутку сына Юрку з сям'ёю, унукаў і двух праўнукаў, а таксама шматлікіх яе асабістых прыяцеляў і знаёмых з Дэтройту і з другіх цэнтраў беларускай эміграцыі.

Сьв. памяці Кацярына Мазуро нарадзілася ў мястэчку Любань 20-га ліпеня 1918 году, у якім яна правяла свае маладыя гады, вучылася й памагала ў працы свайму бацьку Міхасю Бажко, заможнаму селяніну, якому давялося шмат пацярпець ад бальшавіцкіх уладаў і прымусовай калектывізацыі. Ня глядзячы на варожыя адносіны мясцовых савецкіх ворганаў да яе сям'і, а асабліва да бацькі, Каця прадаўжала сваю адукацыю і працавала на становішчы бугальтэра мясцовай каапэратывы.

Хутка па «вызваленьні» Заходняй Беларусі, з Навагрудку у Любань прыбыў малады інжынер-землямер Даніла Мазура. Тут Каця пазнаёмілася зь ім і хутка яны пажаніліся. Пасьля акупацыі Любані нямецкай арміяй Даніла надалей працаваў па сваёй спэцыяльнасьці. Пасьля адступленьня немцаў Даніла й Каця засталіся ў Любані, ня хочучы пакідаць роднай зямлі. Аднак Данілу хутка арыштавалі, закідаючы яму калябарацыю зь нямецкімі акупантамі. Жыхары Любані й ваколіц падпісалі просьбу савецкім уладам, каб Данілу зьвольнілі, але гэта не дапамагло і Данілу выслалі.

З гэтага мамэнту пачаліся стараньні Каці аб звальненьні мужа. Дабіўшыся да галоўнага пракурора БССР у Менску, а потым і да галоўнага пракурора СССР у Маскве, Каця даведалася толькі, што мужа судзілі паводля параграфу савецкага кодэксу аб супрацоўніцтве з замежнаю разьведкаю. У выніку ён быў засуджаны на 13 гадоў зьняволеньня у Сібір бяз права павароту на радзіму. Каця надалей энэргічна дабівалася, хоць асабістага спатканьня з мужам, не глядзячы на вялікія перашкоды з боку НКВД. Гэтая энергія й настойлівасьць засталася ў Каці на цэлае яе жыцьцё. Каця знайшла мужа ў Сібіры у лягеры ў Іркуцку, дзе ён працаваў на будоўлі аэрадрому, як спэцыяліст. Потым ён працаваў у Краснаярску на рацэ Енісей.

У лягеры, ні ў чым непавінная жанчыне з малым сынам на загад уладаў прыйшлося працаваць у рабочай брыгадзе на лесаплаве і вырубіць 360 кубічных мэтраў дрэва, толькі дзеля таго, што яна была жонкаю «палітычнага праступніка».

У часе Хрушчоўскай амнэстыі Даніла быў звольнены і вярнуўся хутка пасьля гэтага да бацькоў дадому ў родны Наваградак. І тут трагэдыя сям'і Дані і Каці прадаўжалася. Стары бацька Дані Вінцук Мазура меў адвагу запытаць пракурора за што арыштавалі яго сына і за гэта быў сам арыштаваны.

Даня і Каця, пасьля розных афіцыяльных перашкодаў з боку мясцовых уладаў у Наваградку, выехалі ў 1958-м годзе ў Польшчу, у Мікалайкі на Памор'і. У Польшчы Каця хутка акліматызавалася, апанавала польскую мову і пачала працаваць па сваёй прафэсіі, як бугальтэр, а пасьля як загадчыца адная з больших рэстаранаў у Мікалайках. Аднак увесь час думалі аб тым, як эміграваць з Польшчы ў ЗША, дзе мелі блізкіх родных. Ім пашчасьціла навязаць кантакт з роднымі ў ЗША праз Міжнародны Чырвоны Крыж. Хутка пасьля гэтага, у канцы 1959-га году маці Данілы, якая была разам зь імі ў Польшчы выехала ў ЗША, а Каця, Даніла і сын Юрка прыбылі ў ЗША 11-га лістапада 1961-га году і пасяліліся настала ў Дэтройце.

Азнаёміўшыся з новымі ўмовамі жыцьця ў Амэрыцы, Каця ўступіла ў Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, аддзел у Дэтройце. Памагаючы ў арганізаваньні шматлікіх імпрэзаў аддзелу, яна пасьвяціла многа працы, каб адзьдзел разьвіваўся і прапагаваў беларускую справу ў ЗША. Яна таксама была вельмі адданай парафіянкай Парафіі Сьвятога Духа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы у Іст Дэтройце, сьпявала ў царкоўным хоры.

Не забывалася яна, аднак, і аб тым што пакінула вялікую сям'ю у Беларусі, думкамі яна часта пераносілася ў родную Любань. Ёй пашчасьціла яшчэ за часоў БССР некалькі разоў паехаць у Беларусь і правесьці там пару месяцаў. Яе паездкі памаглі навязаць кантакты многім сем'ям з Дэтройту, Кліўленду, Нью-Ёрку, Нью-Джэрзі з іхнымі сем'ямі на Бацькаўшчыне.

Пахавіны сьв. пам. Кацярыны Бажко-Мазуры адбыліся 6-га кастрычніка сёлета на могілках White Chapel у прысутнасьці многіх сваякоў, сям'і сына і прыяцеляў, якія прыйшлі, каб аддаць апошнюю пашану гэтай працавітай, скромнай і адданай беларускай справе жанчыне.

Сьпі спакойна, дарагая сяброўка, на далёкай, але вольнай зямлі Вашынгтона, бо Ты выканала свае абавязкі перад Бацькаўшчынай і сваім шматпакутным народам.

**Васіль Пляскач**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча.*

| | |
|---|---|
| В. Кажан | ам. дал. 60 |
| Л. Кавалёў | 40 |
| Ю. Навумчык | 25 |
| Н. Коган | 25 |
| Ю. і Ч. Найдзюкі | 25 |
| Я. Пятроўскі | 25 |
| П. Кулеш | 20 |
| а. В. Андрэюк | 20 |
| Я. Сапежынскі | 20 |
| В. Русак | 20 |
| Г. Дубяга, малодшы | 20 |
| Я. Літвінка | 20 |
| В. Дубяга | 20 |
| А. Дубяга | 20 |
| Разам | 360 |

*Прыслана непасрэдна ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| М. Клакоцкі | ам. дал. 20 |
| Л. і Я. Міхалюк (за Калядныя вітаньні) | бр. фунт. 15 |
| Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытані (за Калядныя вітаньні) | 50 |